

Ня бойся!

Інфармацыйная культурна-грамадская газета Гарадоччыны

# ГАСЦІНЕЦ

№ 16 (169) КАСТРЫЧНІК 2013 ГОДА

**Цытата нумара:**

**Знішчэнне мінулага, магчыма, самае горшае з усіх злачынстваў**

**Сымона Вэйль, пісьменніца**

ПОГЛЯД РЭДАКТАРА

## ЗНІКАЮЧАЯ ПАМЯЦЬ

**Ужо некалькі гадоў камунальныя службы Гарадка не даглядаюць габрэйскія могілкі ў райцэнтры.**

**Габрэйская суполка Гарадка** па перапісу 2009 году была зафіксавана ў колькасці **ўсяго 19 габрэяў**. А на мяжы 20-га стагоддзя колькасць габрэяў ў Гарадку **дасягала 68% ад яго насельніцтва** – іх было некалькі тысячаў. Дзейнічалі сінагогі, габрэйскія школы, габрэі кампактна пражывалі на многіх вуліцах Гарадка, актыўна займаліся рамёствам, удзельнічалі ў развіцці горада.

Наогул, гісторыя габрэяў у Гарадку налічвая больш трох стагоддзяў і адпаведна мясцовыя габрэйскія могілкі маюць такую ж гісторыю. Афіцыйныя дакументы сведчаць, што ў **1869 годзе мясцовай уладай** была выдзелена адна дзесяціна (1, 0925 га) выгонай зямлі ў Гарадку. Гэта тэрыторыя размяшчаецца каля вуліцы Зялёная і абнесена дротам з бетонным слупамі.

Сама тэрыторыя могілак складаецца з **трох частак**: сучасная частка, дзе маюцца пахаванні пасля другой сусветнай вайны; старая частка, якая мае гісторыю больш трох стагоддзяў і частка поўнасцю пакрытая хмызняком.

Больш пяці гадоў назад мясцовыя камунальныя службы пайшлі насустрач просьбам габрэйскай грамадскасці і вызвалілі ад хмызняка старую частку могілак. Габрэі ўласнымі сіламі паднялі з зямлі каля трох сот мацэйваў ( помнікаў) і могілкі набылі прыстойны выгляд.

**Аркадзь Шульман** – даследчык габрэйскай гісторыі Віцебшчыны – у 2008 годзе, наведаўшы могілкі, адзначаў: *"У Гарадку, невялікім раённым цэнтры на самай поўначы Беларусі, я ўбачыў другую карціну. Старадаўняе габрэйскія могілкі, якія дзейнічаюць і дагэтуль, за апошнія гады расчышчаны ад лесу і кустоў, паднята з зямлі больш за трыста мацэяў, рамантуецца агароджу, паднаўляць надпісы на помніках."*

Але на жаль мусіць з таго часу штогадовы дагляд старой часткі могілак спыніўся і яны зноў пакрываюцца хмызняком і зараслі вялікай травой.

Між тым такія вялікія **старыя могілкі** магчыма сказаць **унікальныя** для Беларусі па велічыне і непаўторнасці мацэйваў. Гэта музей пад адкрытым небам.

Пры разумнай уладзе могілкі сталі б **гістарычным аб'ектам,** які прыцягваў бы турыстаў па настальгічным маршруце – дакрануцца да мацэйваў сваіх продкаў. Напрыклад, у сучаснай часткі пахаваны **сваякі Марка Шагала** – Мендэль Эльевіч – экспедытар і яго жонка Хайя Якаўлеўна. Магчыма таксама пахаваны сваякі Міхаіла Рома, а таксама бацькі многіх гарадоцкіх габрэяў, якія з'ехалі з Беларусі.




*Помнік на магіле Шагала Мэндаль Эльевіча*

Наогул, пасля распада Савецкага Саюза гародоцкія габрэі апынуліся ў **Ізраіле, Нямеччыне, ЗША** і канешне маюць настальгію па мясцінах дзяцінства.

Відавочна, што **невялікія матэрыяльныя затраты па дагляду** габрэйскіх могілак у Гарадку, як і месцаў знішчэння габрэяў у Бярозаўцы, Варабьёвых гарах, Бычысе і г.д., лепш умацавалі б імідж мясцовай ўлады чым розныя адначасовыя пустыя мерапрыемствы. Не кажучы ўжо пра марнатраўства вялікіх бюджэтных сродкаў на пампезную рэканструкцыю вайсковых могілак у Гарадку.

**Леанід Гаравы**

*П.С. Пра гісторыю габрэяў Гарадка і раёна можна даведаціца па гэтай спасылцы: shtetle.co.il/Shtetls/gorodok/gorodok.html*



СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА

## ПАЗАБЫТАЯ "ЦАРЫЦА ПАЛЁЎ"

**У Гарадоцкім раёне яшчэ застаюцца палі на якіх яшчэ стаіць пасохшая кукуруза. Самае блізкае поле знаходзіцца амаль у межах Гарадка.**

Гэта поле -- на землях **Гарадоцкай птушкафабрыкі** каля фізкультурна-аздараўленчага комплекса па вул. Гагарына.

**Кукуруза** сапраўды з'яўляецца "царыцай палёў", бо кукуруза з'яўляецца унікальным злакам, карысныя ўласцівасці якога сапраўды варта папулярызаваць.

**Унікальны вітамінавы склад** сведчыць, што у 100 гр. кукурузных зерняў ўтрымліваюць 75 гр. вады, 3,3 гр. бялку 1,1 гр. тлушчаў і 18 гр. вугляводаў. У ёй прысутнічаюць практычна ўсе вітаміны групы В ( В1 , В2 , В5 , В6 , В9 ), а таксама А , Е , К, D і С і мінералы : магній , калій , фосфар , цынк , жалеза , селен і інш.

Гэта значыць, што дзякуючы вітамінам групы В **кукуруза спрыяе** ўмацаванню нярвовай сістэмы і з'яўляецца выдатнай прафілактыкай дэпрэсіі і бяссоння. Наяўнасць вітаміна К дабратворна ўплывае на працу сардэчна -сасудзістай сістэмы, вітамін D умацоўвае косці і зуб , прыродны антыаксідант Е незаменны для скуры і валасоў , С умацоўвае імунітэт , а унікальны па складзе комплекс мінералаў актывізуе абмен рэчываў і паляпшае склад крыві.

Для чалавека кукуруза выкарыстоўваецца як для харчавання, так і для лячэння, а таксама і ў прамысловасці.

Але на Віцебшчыне кукурузу магчыма вырошчваць **перш-наперш для карма жывёл**, бо яна выдатны злак для сіласу. У сувязі з невысокай лічбай эфектыўных тэмператур на зерне кукуруза ў нашых краях не выспявае.

**Тэхналагічная карта** вырошчвання кукурузы на сілас прадугледжвае **больш дваццаці тэхналагічных аперацый**, якія трэба выканаць за год, пачынаючы ад падрыхтоўкі глебы восенню для пасеву да закрыцця сіласных ям плёнкай у наступным верасні. Адпаведна пры кожнай аперацыі затрачваюцца значныя матэрыяльныя( угнаенні, хімікаты, паліва і г.д.) і фінансавыя рэсурсы. Па рэкамендацыі спецыялістаў прадугледжана, што ўборка на сілас павінна адбывацца 5-20 верасня.

Але мясцовыя спецыялісты сельскай гаспадаркі ставяць **свой "эксперымент"**: правядзенне уборкі кукурузы мусіць пад белымі мухамі. Пад маімі вокнамі бачна поле ў некалькі гектараў пажухлай кукурузы, якая даўно "прасілася" на сілас, але яшчэ застаецца на карню. Толькі мясцовыя жыхары ўжо больш месяца цягаюць пачаткі для сябе.

Магчыма спецыялісты **Гарадоцкай птушкафабрыкі** пакінулі гэтае поле, каб у зімовы час падкармліваць дзікоў або для выкарыстання жыхарамі райцэнтра. Але яны не адзіныя, хто яшчэ чакае часу для уборкі кукурузы. Пры паездцы па раёну два-тры тыдні назад падобныя кукурузныя палі сустракаліся і ў іншых месцах раёна.

**Леанід Гаравы**

*П.С. 30 кастрычніка, калі нумар падпісваўся, то кукурузу з гэта поля пачалі ўбіраць.*

САЛІДАРНАСЦЬ

## САЛІДАРНАСЦЬ ПРАЦЯГВАЕЦЦА

**Леанід Гаравы, актывіст Руху "За Свабоду!" працягвае ліставанне з палітычнымі вязьнямі, выказваючы ім падтрымку і паведамляючы аб падзеях у краіне.**

Больш ста лістоў за апошнія два гады даслаў палітычным вязням **Леанід Гаравы,** выказваючы падтрымку вязням, якія ўжо не першы год знаходзяцца за кратамі.Дэмакратычны актывіст пастаянна лістуецца з **Мікалаем Аўтуховічам, Міколай Статкевічам, Алесем Бяляцкім, Мікалаем Дзядком,** а таксама іншым палітвязням. Адбывалася ліставанне актывіста і са Зміцерам Дашкевічам, які выйшаў на волю напрыканцы жніўня.

Найбольш актыўна ідзе ліставанне з **Мікалаем Аўтуховічам, ваўкавыскім прадпрымальнікам**, які за захаванне пяці патронаў атрымаў пяць гадоў турмы. У мужнага вязня ужо пайшоў апошні год зняволення, які пачаў адлічвацца з 8 красавіка. Але умовы ўтрымання яго ў няволі адны з самых кепскіх і абразлівых. У адказ на несправядлівасць і здзекі Аўтуховіч **у знак пратэста** ўскрыў на пачатку верасня сабе жывот.

Таму і ліст з гарадзенскай турмы да Леаніда Гаравога ішоў больш месяца. У апошнім лісце палітвязень парадаваў яшчэ больш цвёрдым і дакладным почаркам, а яго чарніла былі якіясь-ці з залацістым адлівам. Мікалай парадаваў навіной, што кніга **"Хто ўзарваў менскае мэтро?"**, якую дасылаў яму актывіст яшчэ па вясне і якая не дайшла да палітвязня зараз знайшлася ў яго рэчах.

Пасля сваёй акцыі пратэсту Аўтуховіч паведамляе: *"У мяне ўсё добра, не хваліюйцеся там на волі. Я моцны і ўсё вытрымаю! З падтрымкай людзей гэта зрабіць не цяжка."* Аўтуховіч ацэньвае эканамічнае становішча ў краіне так: *"Эканоміка трашчыць па швах, а выхаду з гэтага становішча знайсці не могуць. Мабыць брыдка прызнаць, што нашая мадэль эканомікі -- гэта памылка."*

**Мікалай Статкевіч – былы кандыдат у прэзідэнты**, як звычайна адказвае актывісту на паштоўках, каб менш працы было ў цэнзуры. У апошняй паштоўцы Мікалай Віктаравіч выказвае падзяку за атрыманы ліст і віншаванні з днём нараджэння. Статкевіч адзначае, што ў яго іншы погляд на прычыны скандалу вакол калійнага пытання. "Але ж хутка ўсё пабачым".

Таксама пастаянна Леанід Гаравы лістуецца і з **Мікалаем Дзядком**, які сядзець па справе анархістаў у той жа магілёўскай турме, што і Статкевіч. Мікола паведамляе, што робіць новы пашпарт, бо тэрмін дзеяння старога пашпарта скончыўся ( у жніўні Дзядок адзначыў 25-годдзе). Мікалай адзначае ў лісце, што *"Цікавасць выклаў нечаканы паварот сітуацыі ў Сірыі і навокал яе. Тое, што я бачу, у чарговы раз даказала адсутнасць перадвызначанасці сусветнай палітыкі -- насупраць разнастайным тэорыям змовы."* А так жыццё ў турме для маладога палітвязня ідзе сваёй хадой -- назіраннем за хадой падзей ў краіне і свеце, а таксама заняткі самаадукацыяй...

Акцыю салідарнасці з палітвязнямі **Леанід Гаравы** плануе ладзіць да іх канчатковага вызвалення і заклікае неабыякавых грамадзян таксама **падтрымліваць вязняў сумлення.**

**Л. Антонаў**

ФІНАНСАВЫ КРЫЗІС

# ВЯЛІКАЯ ЗАПАЗЫЧАНАСЦЬ ПА ВЫПЛАТАХ

**У паловы сельгаспадарчых арганізацый Гарадоцкага раёна была запазычанасць па выплаце заробкаў, а таксама перад Фондам сацыяльнай абароны насельніцтва**

Па дадзеных статыстыкі на 1 кастрычніка пратэрмінаваная запазычанасць у суме 39,9 мільярда рублёў мелася ў 109 арганізацый, размешчаных у 19 з 22 рэгіёнаў вобласці. Заработная аплата не была выплачана своечасова 14839 работнікам.

Так, у Пастаўскім раёне на гэтую дату не выплачана зарплата ў 12 з 14 сельскагаспадарчых арганізацый раёна (пратэрмінаваная запазычанасць за жнівень склала 4,2 мільярда рублёў, за ліпень - 1 мільярд), Гарадоцкім раёне - у 6 з 12 арганізацый ( жнівень - 3,1 мільярда, ліпень - 1,6 мільярда), Талачынскім - у 11 з 15 (3,5 мільярда і 0,8 мільярда), Сенненскім - у 8 з 14 (3,8 мільярда і 0,3 мільярда рублёў).

І гэта пры тым, што ў жніўні - верасні меўся найбольшы аб'ём выручкі, якая паступае ад сезоннай рэалізацыі прадукцыі раслінаводства.

Былі прыняты меры, і на 15 кастрычніка ўдалося пагасіць запазычанасць па заработнай плаце ў суме 38,7 мільярда рублёў. У сапраўдны момант не выплачана 1,2 мільярда рублёў у сямі арганізацыях. Таксама застаецца складанай сітуацыя з пагашэннем запазычанасці суб'ектамі гаспадарання перад Фондам сацыяльнай абароны насельніцтва. На 1 ліпеня пратэрмінаваная запазычанасць складала 136,7 мільярда рублёў, з якой ільвіная доля (121,8 мільярда) прыходзілася на сельскагаспадарчыя прадпрыемствы .

У Камітэце дзяржкантролю Віцебскай вобласці адбылася рабочая нарада па пытанні выплаты заработнай платы і пагашэння запазычанасці ў Фонд сацыяльнай абароны насельніцтва. Па яго выніках выпрацаваны прапановы, дадзены даручэнні органам мясцовай улады, накіраваныя на безумоўнае пагашэнне пратэрмінаванай запазычанасці па заработнай плаце, недапушчэнні яе ўтварэння ў далейшым, пагашэнні запазычанасці перад Фондам сацыяльнай абароны насельніцтва, а таксама на паляпшэнне фінансавага становішча прадпрыемстваў сельскай гаспадаркі.

**Ларыса Волкава**
**Віцьбічы**

НАША НОЎ-ХАУ

# ХОЦЬ ЯКАЯ КАРЫСЦЬ З БАРШЧЭЎНІКА

**У Гарадоцкім раёне ніхто не змагаецца з зараснікамі баршчэўніка. Сяляне выкарыстоўваюць яго як растопачны матэрыял, паведамляе "Віцебскі кур'ер".**

У дваццаці кіламетрах ад расійскай мяжы можна ўбачыць карціну найпоўнага краху саўгасна - калгаснай сістэмы . Саўгас " Обальскі " ужо больш за 10 гадоў як збанкрутаваў. Зусім нядаўна спыніў сваё існаванне і "Маяк". Вакол галеча і беспрацоўе. Пустыя дамы . Ну а баршчэўнік, які апанаваў усю акругу, нагадвае непраходныя джунглі трохметровай вышыні. Стварaецца ўражанне, што ў гэтай мясцовасці ніколі не ступала нага кіраўніка раёна, тым больш – старшыні аблвыканкама.

У Гарадоцкім раёне баршчэўнік разросся не толькі на былой ворнай зямлі калгасаў і саўгасаў, але пранік і на прыватныя падворкі вяскоўцаў. Сельсаветы, на чые плечы ўскладзена барацьба з баршчэўнікам, не могуць справіцца з ускладзенай задачай.

Праўда, голь на выдумку хітра. Сяляне, да прыкладу, вёскі Обаль Віраўлянскага сельсавета ўсохлы на карані баршчэўнік ссякаюць сякерай, выкарыстоўваючы затым у печах для падпалу дроў. Гарыць ён, дарэчы, як порах. А вырастае за адно лета да трох метраў, так што "стратэгічнай сыравіны" можна нарыхтаваць прazапас на ўсю зіму.

**Уладзімер Жыгулоў**

ДОБРАЎПАРАДКАВАННЕ

# НЯМА ПАРАДКУ

**Міжведамасная працоўная група Віцебскага абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя 8 кастрычніка зафіксавала шматлікія парушэнні экалагічнага заканадаўства на тэрыторыі Гарадоцкага раёна.**

У ходзе праверкі ўстаноўлена, што **ААТ «Гарадоцкі райаграпрамзаб»** на ўнутрыгаспадарчых кар'ерах Верамеяўка і Вокшава не ўстаноўлены інфармацыйныя знакі. Параметры унутрыгаспадарчых кар'ераў не прыведзеныя ў адпаведнасць з патрабаваннямі заканадаўства. У кар'еры Вокшава маюцца месцы несанкцыянаванага размяшчэння адходаў ЦКА . Не праведзена рэкультывацыя парушаных зямель унутрыгаспадарчых кар'ераў на плошчы 1 га.

**Тэрыторыі машынных двароў** ААТ "Гарадоцкі райаграпрамзаб» не прыведзены ў належны парадак. Прылеглая тэрыторыя зарасла пустазельнай і драўняна - хмызняковай раслiннасцю, баршчэўнікам Сасноўскага. На пляцоўцы для часовага захоўвання сабралася вялікая колькасць зношаных шын, таксама на тэрыторыі двара маюцца месца размяшчэння металалому, невыкарыстоўваемай тэхнікі.

**КУП «Гарадоцкі ПК і ЦС»** не праведзены работы па подбуртовки і пляцоўка адходаў, ачысткі прылеглых тэрыторый і пад'язных шляхоў на **міні-палігоне Вархі**. Адсутнічаюць інфармацыйныя паказальнікі на міні - палігоне Далгаполье, Вархі.

Па выніках праверкі за допушчаныя парушэнні заканадаўства аб абыходжанні з адходамі да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнута КУП «Гарадоцкае ПКіЦС» па **ч.2 ст.15.63** Кодэкса Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях. Штраф па дадзенаму артыкулу для юрыдычнай асобы можа быць да тысячы базавых велічынь – 130 млн. рубл.

Кіраўнікам прадпрыемстваў **ААТ "Гарадоцкі райаграпрамзаб", ААТ «Гарадоцкі льнозавод», КУП «Гарадоцкі ПКіЦС»** накіраваны прадпісанні аб устараненні парушэнняў.

**priroda-vitebsk.by/ru/static/control/kontrol-20-06**

ПРАКУРОРСКАЯ ПРАВЕРКА

# ШМАТЛІКІЯ ПАРУШЭННІ ПАДЧАС УБОРКІ

**Органы пракуратуры Віцебскай вобласці выявіла шматлікія парушэнні арганізацыямі аграпрамысловага комплексу патрабаванняў заканадаўства пры правядзенні ўборачнай кампаніі, як у вобласці так і ў Гарадоцкім раёне.**

Як паведамляе сайт Генеральнай пракуратуры Беларусі, вынікі праверкі сведчаць аб тым, што сельскагаспадарчыя арганізацыі правялі "пэўную працу па падрыхтоўцы тэхнікі і забеспячэнні бяспекі пры правядзенні ўборачных работ". Разам з тым у шэрагу гаспадарак выяўлены парушэнні заканадаўства ў гэтай сферы. Так, да пачатку ўборачнай кампаніі не ўвесь транспарт аграпрамысловага комплексу вобласці прайшоў абавязковы дзяржтэхагляд, не ўсюды забяспечылі захаванасць тэхнікі, задзейнічанай у ўборачных працах.

Пракурорскія работнікі выявілі факты неналежнага стану агарожы і асвятлення мехдвароў у ААТ "Слабодка - Агра" Браслаўскага раёна, СХУП "Паўночны" і КУСГП" Сцяпанавічы " Гарадоцкага раёна , ААТ "Таргуны" Докшыцкага раёна, ААТ "Наўгароды" Мёрскага раёна, КСУП "Племянны завод "Рэканструктар" і ААТ "Каралькі" Талачынскага раёна .

У Віцебскім, Гарадоцкім, Докшыцкім, Дубровенскім, Мёрскім, Сенненскім і іншых раёнах выяўленыя факты з'яўлення работнікаў сельгаспрадпрыемстваў на працоўных месцах у стане алкагольнага ап'янення. Вінаватыя прыцягнуты да дысцыплінарнай і адміністрацыйнай адказнасці. Факты кіравання транспартнымі сродкамі ў стане алкагольнага ап'янення выявілі ў Віцебскім, Гарадоцкім, Дубровенскім і іншых раёнах.

Усяго пры ажыццяўленні нагляду за выкананнем заканадаўства ў аграпрамысловым комплексе пракуроры раёнаў унеслі 14 уяўленняў аб ліквідацыі парушэнняў названага заканадаўства, вынеслі 24 прадпісанні. 11 асоб афіцыйна папярэджаныя аб недапушчальнасці парушэнняў заканадаўства. Да дысцыплінарнай адказнасці прыцягнутыя 18 работнікаў сельскохозорганизаций, да адміністрацыйнай - 19. Вынікі праверкі будуць разгледжаны на пасяджэнні калегіі пракуратуры Віцебскай вобласці, паведамляе сайт Генпракуратуры .

**Чытаць цалкам: http://news.tut.by/society/372456.html**

НАВІНЫ ФУТБОЛА

# УСЁ ВЫРАШЫЦЦА Ў АПОШНІМ ТУРЫ

**"Прамень" пераканаўча перамог на сваім поле "Полацкгаз" у перадапошнім туры фінальнай часткі другой лігі чэмпіяната Віцебскай вобласці па футболу**

**27 кастрычніка** аматары футбола Гарадка ўрэшце пабачылі сваю каманду на родным полі пасля трох выязных гульняў. Пачатак гульні зацягнуўся на паўгадзіны, бо госці не падрыхтавалі неабходныя дакументы да гульні і арбітр пачаў гульню толькі ў 13.30.

У **Гарадок "Полацкгаз"** прыехаў пасля трох гульняў, якія правёў за тыдзень у першай лізе чэмпіяната Беларусі пад шыльдай ФК "Полацк". Гэтыя гульні футбалісты з Полацка прайгралі з агульным лікам 1:15. Пры гэтым яшчэ ў суботу яны наведалі за 600 км Бярозу на Берасцейшчыне, дзе атрымалі сем"сухіх" галоў у сваю браму.

Стамлёнасць адчувалася ў дзеяннях былога лідэра на працягу ўсяго матча. Асабліва няўдала склаўся для гасцей першы тайм. Нашыя футбалісты поўныя жадання даказаць сваю моц абрынулі на полацкую браму шквал атак. **Вадзім Жогаў, Арцём Шчыценка, Зміцер Шыла** давялі лік у першым тайме да 3:0 на карысць "Праменя".

У другім тайме госці пачалі больш прэсінгаваць гаспадароў, але прапусцілі кантратаку, якую ўдалым ударам завяршыў **Вячэслаў Мочкін**. Пасля гэтага стала зразумела, што цуда не павінна адбыцца і "Полацкгаз" не адквітае чатыры мячы. Так і адбылося. У жорсткай барацьбе з нашай абаронай полацкія футбалісты забілі два мячы, але на большае не аказаліся здатнымі.

Перамога **"Праменя"** канчаткова заблытала сітуацыю на фінішы чэмпіяната **другой лігі**. Калі на першым месцы недасягальна размясцілася "Дынама" (Лёзна) з 19 ачкамі, то ў "Алімпа" (Чашнікі) стала 14 ачкоў пасля перамогі ў апошнім туры, у "Полацкгаза" засталося 13 ачкоў, а "Прамень" падняўся на чацвёртае месца – 12 ачкоў.

Цяпер у апошнім туры **3 лістапада** "Прамень" на сваім полі прымае аўтсайдэра фінальнай часткі "Лепельку" з Лепеля, "Полацкгаз" на сваім полі згуляе з лідэрам "Дынама" (Лёзна), а "Алімп" накіруецца ў Паставы. Менавіта ад гульні ў Паставах залежыць ці здолее наш клуб выйсці ў першую лігу. Наша перамога над "Лепелькай" ды і выйгрыш "Полацкгаза" вялікіх сумненняў не выклікаюць.

**Л. Антонаў**

## Аб'ява

Аператыўная інфармацыя аб падзеях Гарадоччыны, рэгіёна і больш, чым у газеце, зараз па-беларуску і па-расейску з'яўляецца на новым Інтэрнэт рэсурсе: http://haradok.info

*************

Наша газета "Гасцінец" пачала размешчацца на партале http://haradok.info ў раздзеле "Газета "Гасцінец", дзе ствараецца архіў за мінулыя гады.

*************

Каб атрымліваць кожны нумар газеты «Гасцінец» паведаміце рэдакцыі аб гэтым – і вы яго атрымаеце. Калі ўжо не жадаеце атрымліваць выданне, то патэлефануйце у рэдакцыю.

НАША ЎЛАДА

# ОТКУДА ВЗЯЛИСЬ ДЕНЬГИ НА «ДВОРЕЦ»

**Давайте почитаем документы и закончим, наконец, гадать, за какие средства строилась новая резиденция.**

«Они даже не знают, сколько это стоит, за какие деньги построено. Там нет ни одного бюджетного рубля». Лукашенко подкинул эту «дразнилку» и уже стало просто делом чести найти «бухгалтерию».

Итак, 17 февраля 2012 года Лукашенко подписал указ № 75 «Об утверждении государственной инвестиционной программы на 2012 год». В нем в таблице 5 есть перечень объектов коммунальной собственности, строительство которых финансируется из государственного бюджета. Между строительством терапевтического корпуса на 100 коек в Осиповичской районной больнице и строительством в Минске квартир для детей-сирот затесался самый обсуждаемый на сегодняшний день объект. На «Административное здание на территории в границах ул. Орловской - просп. Победителей - р. Свислочь» в 2012 году было предусмотрено выделение 200 миллиардов рублей, или 24 миллионов долларов.

Между прочим, это 142 годовых плана по строительству в Минске квартир для сирот и семей, воспитывающих сирот. По крайнеймере, если сравнивать с тем же 2012 годом, когда на эти цели из государственного бюджета выделялось только 1,4 миллиарда рублей.

Наступил год 2013-й, стройка, несмотря на кризис и год бережливости, не остановилась. Что не удивительно. Потому как 14 марта 2013 года Лукашенко подписал указ №126, которым вновь обозначил объекты для инвестиций. И в таблице 5 мы вновь видим «Административное здание на территории в границах ул.Орловской - просп. Победителей - р.Свислочь». На нынешний год на объект из госбюджета выделено 974 миллиарда 400 миллионов рублей. То есть 110 миллионов долларов. Теперь это эквивалентно 396 годовым квотам на строительство в Минске жилья для сирот (на 2013 год заложено 2,46 миллиарда рублей).

Одно «административное здание» потянуло из республиканского бюджета больше половины объема годового финансирования строительства коммунальных объектов по всей стране. Это в 10 и более раз больше, чем должно быть выделено средств на все объекты этой категории в каждой отдельно взятой области (кроме Минской). То есть на школы, поликлиники, социальное жилье и тому подобное. Но коль уж Лукашенко вещал студентам, что для него важнее строить квартиры для сирот и многодетных, а не восстанавливать старинные замки, то сравним и с замками. На реконструкцию Коссовского замка, например, в этом году из госбюджета должно быть выделено 1,7 миллиарда рублей. То есть на новую резиденцию радетель народный, историк и скромник «отжалел» в ... 570 раз щедрее.

... Впрочем, главное не это. Главный вопрос: что это было — речи про «ни рубля из бюджета»?

Ответ: очень похоже, что это не провалы в памяти, а просто сказки. Это ведь так приятно, кода ни копейки не потратил, а дворец как-то «по царскому веленью, по моему хотенью» выстроился. Но так не бывает. А бывает, как раз, наоборот: построили дворец, зато не построили десятки детских садов, поликлиник, квартир для сирот.

Мораль той сказки: в грязь лицом с этим дворцом мы не промахнулись.

**Светлана Калинкина**
**«Народная воля»**

НАТАТКІ З ВАНДРОЎКІ

# ЯК ЗМЯНІЛАСЯ БЕЛАРУСЬ ЗА ЧАТЫРЫ ГАДЫ

**Краіна мадэрнізуецца, але страчвае нацыянальную мову, піша патрыярх беларускай дыяспары з Амерыкі.**

"...Словам, ад старту да фінішу ўсё наша ліпеньска-жнівеньскае падарожжа – 10 дзён у Польшчы зь Беластокам і 20 у Беларусі – прайшло гладка, прыемна й памятна. Хочацца верыць, што сустрэча наша была не апошняй…

Цяпер тут знаёмыя пытаюцца: «Ну, як там у Беларусі?» Пытаньне ёмістае. Можа й вам будзе цікава пачуць наш адказ.

Мушу сказаць, што за мінулыя чатыры гады зьмены ў вас відавочныя. Значна пашырыўся й мадэрнізаваўся менскі аэрапорт (зь ім мы пазнаёміліся пры адлёце): значна пашырэла электроннае таблё з новымі рэйсамі, больш кіёскаў з сувэнірамі, крамаў з замежнымі бутэлькамі алькаголю й парфумэрыі, перакусачных, банкаўскіх вакон ды іншага.

Пабольшала аўтастрадаў. Новыя, чыстыя, з гладкімі палосамі траўнікаў паабапал. Далейшая хада дарожнага будаўніцтва навідавоку. Прыбыло будаўнічай тэхнікі. Галоўнае, чаго не стае — гэта аўтамабільнай і турыстычнай абслугі. Дзясяткі кілямэтраў без рэстаранчыка, без заправачнай станцыі, безь месца адпачынку. Па-ранейшаму скупыя, або блытаныя, або зусім адсутныя на бакавых дарогах паказнікі кірунку....

На вуліцах сталіцы пабольшала аўтамабіляў з павышанай доляй навейшых. Амаль у кожнага пешахода пры вуху мабільнік. Людзі выглядаюць крыху лепш апранутымі. Але ўсе па-ранейшаму з авоськамі або мешкаватымі чыноўніцкімі партфэлямі.

Мадэрнізацыйныя зьмены заўважаюцца і ў правінцыі. Зьявіліся кватэрныя туалеты там, дзе іх яшчэ нядаўна не было, душы зь цёплай вадой, машыны да мыцьця бялізны. Мы былі прыемна зьдзіўленыя, пабачыўшы ў раённых Жыткавічах супэрмаркет. Вялікі выбар прадуктаў, хуткая абслуга...

Праўда, калі гаварыць пра заработкі й цэны, то ружовы колер зьнікае. Вочы бачаць, а кішэня не дазваляе. Сямейныя бюджэты трашчаць. Уздоўж дарогаў (падобна як і на Беласточчыне) сёй-той залатвае бюджэтныя дзіркі продажам «дароў» лесу. Але ж такіх прадаўцоў зьнікомая колькасьць. Лес далёка ня ўсім даступны. Дый транспарт каштуе.

Шмат якія гараджане займаюцца «нелегальным вулічным гандлем» (тэрмін менскай адміністрацыі), змагацца зь якім улады заклікалі нядаўна міліцыю ды падаткавую інспэкцыю.

Як вынік сацыяльнай дыфэрэнцыяцыі й росту жыцьцёвага ўзроўню часткі насельніцтва, растуць і цэны. А рост цэнаў даймае якраз найбяднейшых. Жанчына ў харчовай краме: «А што ж гэта такое?! Учора батончык быў пяць тысячаў, а сёньня ўжо сем! Вось табе й падвысілі пэнсіі…» Адна рука дае, другая забірае.

Замежныя тавары нагэтулькі пераважаюць сваімі якасьцямі, што ўрад мае праблему з гандлёвым дэфіцытам: валюта ўцякае за мяжу. Урад змагаецца з гэтымі ўцёкамі рознымі спосабамі, у тым ліку этыкеткамі ў крамах: «Зроблена ў Беларусі». Беларусы, будзьце патрыётамі!

За мяжу ўцякае ня толькі валюта, а й маладыя людзі ў пошуку нармальных бытавых умоваў. Наяўны прыклад: настаўнік-пачатковец зь месячнай зарплатай 275 даляраў шукае кватэры ў Менску й даведваецца, што найтаньнейшая аднапакаёўка будзе каштаваць яму 200 даляраў. Вось і ўладкуй свой быт, калі ня маеш дапамогі ад бацькоў зь дзядамі.

Густой заслонай над беларускай зямлёй павісла расейская мова й русіфікаванае маўленьне. Дэнацыяналізацыйныя ўплывы дабраліся ўжо да фанэтыкі, да цьвёрдых і фрыкатыўных гукаў беларускай мовы. У моўна зьнявечаным Менску засталіся адно бледныя сьляды нацыянальнага моўнага скарбу

*працяг на стар. 4*

ЕЎРАЗІЙСКІ САЮЗ

# ПУЦІН ПАДВЕСІЎ МОРКВУ

**На саміце еўразійскай тройкі ў Мінску прэзідэнты Беларусі і Казахстана адчувальна прыціскалі Уладзіміра Пуціна.**

І той на выніковай прэс-канферэнцыі ўвечары 24 кастрычніка заявіў: Расія згодная паступова выключыць ўсе канфіскацыі з рэжыму гандлю Мытнага саюза. Ключавым у гэтай фразе ўяўляецца слова "паступова».

«Я б узяў часткамі. Але мне трэба адразу», - гэтую фразу Астапа Бэндэра ні Аляксандр Лукашэнка, ні Нурсултан Назарбаеў дазволіць сабе не могуць. Давядзецца працягнуць вязкі гандаль з Расіяй, каб паскорыць этапы працэсу. Пры гэтым наіўна спадзявацца, што Масква адмовіцца ад дыскамфортных сустрэчных умоў.

Адсцягніце на пабудову Эміратаў!

Нават па сухіх радках афіцыйных крыніц можна зразумець, што размова на пасяджэнні Вышэйшага еўразійскага эканамічнага савета 24 кастрычніка была вострай.

Падсыпаў перцу казахстанскі прэзідэнт. Ён наракаў на нераўнапраўе, бар'еры ў Мытным саюзе, цяжкасці доступу прадукцыі з Казахстана і Беларусі на расейскі рынак, падкрэсліў, што яго краіна не можа транзітам праз Расею прадаваць электраэнергію ў Беларусь.

Назарбаеў ўпіраў на тое, што трэба было б засяродзіцца на ліквідацыі выключэнняў і абмежаванняў па таварах і паслугах у рамках ўжо дасягнутых дамоўленасцей.

Лукашэнка казаў у тым жа духу: колькасць выключэнняў і абмежаванняў не зменшылася, па некаторых напрамках нават ўзрасла. «Мы не можам прадуктыўна рухацца далей, не выканаўшы нашы папярэднія дамоўленасці », - падкрэсліў ён.

Увогуле, падобна, што на нядаўняй сустрэчы ў Астане кіраўнікі Беларусі і Казахстана ў нейкай меры скаардынавалі намаганні.

Артпадрыхтоўку да саміту ў Менску Лукашэнка правёў 21 кастрычніка, у гутарцы з рэдактарамі краін СНД. Зразумела, што гэта апеляцыя перш за ўсё да расійскага кіраўніцтва. Раней, на прэс -канферэнцыі 11 кастрычніка, Лукашэнка канкрэтна растлумачыў, чаго ён хоча ад Крамля перш за ўсё: каб з 1 студзеня 2014 года былі зняты экспартныя пошліны на нафтапрадукты з расійскай нафты, якія Беларусь прыбыткова прадае за межы Мытнага саюза. Інакш, маўляў, можам гэты саюз і не пацягнуць.

«Мы пералічваем ў бюджэт Расіі за нафтапрадукт, вывезеныя на Захад, чатыры мільярды даляраў. А калі б яны засталіся ў краіне? Я б пабудаваў тут Эміраты», - маляўніча апісаў тады перспектыву беларускі афіцыйны лідэр .

Масква патрабуе сустрэчных саступак

Ну, на другія Эміраты па суседству Расія адразу так вось і не раскашэліцца, аднак відавочна, што Пуцін вымушаны сатупаць прэсінгу саюзнікаў.

«Мы разумеем, што для нашых партнёраў важна выключыць вось гэтыя выключэнні, звязаныя з нафтапрадуктамі і нафтай і гэтак далей. Мы гатовыя. Для нас гэта страты бюджэту, але мы гатовыя гэта зрабіць», - заявіў расійскі прэзідэнт на прэс - канферэнцыі вечарам 24 кастрычніка.

Аднак ён тут жа адзначыў, што гэта адным махам не вырашыш: спатрэбіцца час і рух па ўзгодненым плана. «Разлічваем на тое, што і партнёры пойдуць нам насустрач, прыбіраючы тыя выключэнні, якія для іх, як яны лічаць, важныя», - дадаў Пуцін.

У любым выпадку чакаць цудаў ад еўразійскай інтэграцыі не прыходзіцца. Бо аб'ядноўваюцца «бедныя, досыць неразвітыя тэхналагічна, якія перажываюць кучу ўнутраных праблем краіны", адзначыў у каментары для Naviny.by дырэктар Цэнтра еўрапейскай трансфармацыі ( Мінск) Андрэй Ягораў.

Да таго ж, на яго думку, ідзе гульня, у якой кожны з бакоў спрабуе атрымаць кароткатэрміновыя выгады, у прыватнасці Беларусь - забяспечыць сабе танныя энерганосьбіты, а Расія - задаволіць свае палітычныя амбіцыі.

«Пакуль Расея будзе плаціць, Беларусь, напэўна, будзе дэманстраваць лаяльнасць», - лічыць Ягораў. Але пры спробах Крамля выставіць патрабаванні Мінск адразу «займае абарончую пазіцыю», а калі наогул ніякіх выгод не будзе відаць, то «Беларусь зусім хутка і выразна разгорнецца ў іншы бок».

Цяжка ўявіць, як Лукашэнка, які звыкся камандаваць урадам і Нацбанкам, будзе падпарадкоўвацца нейкім устаноўленым наднацыянальнымі органамі параметрам эканамічных паводзінаў. Хоць і заяўляў размашыста на пасяджэнні 24 кастрычніка, што «не варта баяцца передачы дадатковых паўнамоцтваў на наднацыянальны ўзровень" і наогул «суверэнітэт не абраз».

Увогуле, Пуцін пакуль хутчэй падвесіў моркву для партнёраў, чым паднёс ім жаданыя даброты на спадачку. *(скарочана)*

**Аляксандр Класкоўскі**
**БЕЛАПАН**

4 СТАР.

КАРНАЯ СІСТЭМА

# ПИСЬМО ИЗ АДА

**Шокирующее письмо прислал из тюрьмы политзаключенный Николай Автухович.**

В редакцию «Народной воли» передали статью Николая Автуховича. Этот рассказ о тюремной действительности по-настоящему страшен.

- Я нахожусь в местах лишения свободы за нетерпимость к несправедливости. За то, что открыто говорил о коррупции. Но преступлений я не совершал.

За все время нахождения в тюрьме №1 г.Гродно я не обращал внимания на подлости отдельных сотрудников тюрьмы, которые нарушали мои права. Еще до приезда в эту тюрьму я знал, что мне тут могут создать «особенные» условия содержания, но был уверен, что выдержу любые испытания.

Я не жаловался, когда меня по прибытии в тюрьму сразу поселили в камеру-изолятор и продержали там 255 суток. В этой сырой и холодной камере с бетонным полом, без стола и лавок (что запрещено законом) я сидел бы до конца срока, если бы не случайная заметка в газете. В камере от большой влажности, мокрых стен вещи покрывались плесенью даже в сумке. Гнил матрац. При этом отдельные сотрудники тюрьмы издевательски говорили: «Радуйся, что тебе дали номер «люкс»!» Вот только от такого «люкса» у меня, некурящего человека, из легких начали откашливаться влажные сгустки. В этом «люксе» даже летом приходилось сидеть в шапке, а всю зиму на внутренней решетке окна был лед....

Я не реагировал, когда у матери не приняли продуктовую передачу, которую сами же и разрешили, приурочив к нашему свиданию. Мама на свою небольшую пенсию насобирала денег на 30 кг недешевых продуктов, привезла, а ей говорят: «Не положено!» Разве это не издевательство? Хорошо, что я на свидании подготовил ее к такому варианту развития событий и немного успокоил. А так могла бы и инфаркт получить. Разве можно назвать офицеров, не сдержавших свое слово, мужиками? Они не мужики, мужики так никогда не поступят, тем более офицеры.

Не жаловался я и на медиков, которые игнорировали мои обращения за помощью. За год я обращался к ним 40 раз, откликнулись только 6 раз. Причем посещения врачей заканчиваются одним вопросом: «Так что тебе дать, если у нас ничего нет?» А в ИК-5 врачи честно говорили: «Легче оформить бумаги о твоей смерти, чем лечить». У меня много серьезных заболеваний, но при этом медики тюрьмы ни разу (!) не взяли у меня анализы. И такое отношение не только ко мне - подобные жалобы я слышал от многих осужденных.

На прием к начальнику медчасти я не мог попасть более двух месяцев, хотя исправно писал заявления. А когда попал, то на мой вопрос «Почему встречи пришлось ждать так долго?» он ответил, что от меня никаких заявлений не поступало… Да, это правда, написанные осужденными заявления здесь часто уходят в никуда. Один раз меня отказались выводить к адвокату из-за отсутствия моего заявления. Я не стал писать новое, так как буквально за несколько дней до приезда адвоката я отдал заявление на встречу лично в руки начальнику. Так не должно происходить, но происходит.

Я не реагировал на многие другие пакости и провокации, пока с помощью прокурора Гродненской области, который в январе 2013 года посетил мою камеру, не узнал, что являюсь «злостным нарушителем» режима содержания в тюрьме №1. Как оказалось, на меня еще в октябре 2012 года был написан рапорт о том, что я не реагирую на замечания контролера. Хотя в реальности, таких замечаний и предупреждений не было. И в октябре 2012 года мне, оказывается, вынесли выговор, о котором я случайно узнал в январе 2013 года.

Решение о наложении на меня взыскания не было решением администрации тюрьмы. Они только исполняли приказ сверху. Это был приказ людей, способных влиять на ситуацию в целом. Не простых смертных, а людей, близких к верхушке власти. Видимо, они боятся, что я выйду на свободу раньше отмеренного судом срока и предоставлю доказательства своей невиновности.

Что это за тюрьма, в которой под копирку фабрикуют нарушения рядовые контролеры, а руководство изображает свою непричастность к этому? Почему рядовой «вертухай» не боится лгать и ломать судьбы людей? Нет веры таким офицерам, как бы администрация ни оправдывалась. Не бывает таких совпадений, чтобы дважды - в 2012 году и в 2013 году -- я получал взыскания как раз перед тем, как должны погаситься все предыдущие. Таким образом, мне пришлось выразить протест и располосовать лезвием живот. Все эти меры на совести исполнителей. Другого способа привлечь внимание к данной проблеме уже нет. На протестные голодовки администрация не реагирует. Я протестую, так как завтра этот контролер подтвердит, что на его смене Автухович сам повесился в камере на решетке или умер от сердечной недостаточности.

С 2005 года я нахожусь в неволе и вижу, что ситуация с правами осужденных только ухудшается. За это время я хорошо уяснил, что ни надзирающий прокурор, ни любой другой контролирующий орган не решают проблемы осужденных.

... Примеров расправы над искателями правды достаточно. Не случайно осужденные после своих жалоб попадают в ШИЗО и долго не могут из него выйти, получая дополнительные сроки за всякие надуманные прегрешения. Меня самого много раз выводили из ШИЗО к руководству колонии только затем, чтобы «выписать» дополнительное наказание.

Вседозволенность, безнаказанность, круговая порука лишают сотрудников администраций колоний и тюрем чувства меры в произволе. Они даже перестают скрывать и вуалировать свои изощренные методы вымогательства с осужденных и их родных. Более того, многие сотрудники под предлогом недофинансирования исправительных учреждений умудряются организовывать личный бизнес за счет осужденных и их родственников....

Знаю, что в опровержение моих слов администрациям учреждений не составит большого труда найти нужное количество тех, кто станет рассказывать, как им хорошо живется в колониях и тюрьмах, что всех все устраивает и никто ни на что не жалуется. Но, думаю, все понимают, что несложно вложить нужные речи в уста послушного и зависимого раба. Однако я знаю, о чем говорю, и готов ответить за свои слова. Тем более что за последние 20 лет через тюрьмы и лагеря суверенной Беларуси прошло столько людей, что свидетелей не нужно будет искать. Если каждый, кто пользуется интернетом, разместит свой рассказ или рассказы тех своих знакомых, которые побывали в местах лишения свободы, то мир содрогнется, узнав, насколько в Беларуси прогнила эта система.

Это все в XXI веке, это все «цивилизованная Беларусь». В медсанчасти тюрьмы нет самых простых препаратов от простуды. В Гродненской тюрьме бол года не было стоматолога. Здесь не лечат зубы, а сразу удаляют их. Мой сокамерник мучался с больным зубом с января 2012 года. С этого времени он больше десяти раз записывался на прием к зубному врачу, но так и не попал, уехал в колонию в мае 2013 года. Разве это не приравнивается к пыткам?

Про избиения, провокации, издевательства и разные махинации я могу книгу написать (и, возможно, когда-нибудь напишу). Но пока хочу задать другой вопрос: как долго власть будет маскировать за шильдой «законности, справедливости и демократичности» анклавы рабовладельческого строя, созданные за заборами колоний? Как долго общество будет молчать об этой проблеме или делать вид, что она его не касается? Как долго мы будем закрывать глаза на абсолютный произвол?

*(значна скарочана)*

**"Народная воля"**

НАТАТКІ З ВАНДРОЎКІ

*пачатак на стар. 3*

— на некаторых шыльдах, на вулічных табліцах, дзяржаўных будынках ды ў гарадзкім мэтро, дзе яшчэ лашчыць слых прыемны мужчынскі барытон: «Асьцярожна! Дзьверы зачыняюцца. Наступная станцыя Купалаўская».

Пры ўсім гэтым варажнечы да нашай беларускай мовы, якою мы ўсюды карысталіся, мы не адчулі. Мова нацыянальнай спадчыны, калі яе актыўна не падтрымлівае ўрад і мясцовыя ўлады, застаецца аб'ектам абароны з боку лічаных адзінак і малалікіх групаў грамадзянаў...

Несамавітым аднак застаецца яшчэ сярод многіх беларусаў інтэлектуальны вывіх у пагалядзе на нацыянальную мову. І на самой рэчы: з далёкіх вякоў як і зь нядаўных дзесяцігодзьдзяў гучаць ва ўнісон галасы найвыдатнейшых постацяў айчыннай гісторыі, што родная мова Богам дадзеная. Пра гэта казалі й кажуць Францішак Скарына, Леў Сапега, Францішак Багушэвіч, Янка Купала, Рыгор Барадулін ды мноства іхных сучасьнікаў. Але мазгі ў нашых людзей нагэтульки затуманеныя русіфікацыяй (або палянізацыяй), што нават тыя, хто глыбока вераць у Бога, не разумеюць свайго першароднага грэху, калі яны здаюць на пагібель Божы дар, родную мову.

На гэтым пакуль што спынімся. Паспрабуем прасеяць праз сіта развагі ўсё бачанае і чутае. Ды будзем жыць далей думкамі й мроямі пра родную Беларусь". *(скарочана)*

**Янка Запруднік**
**Самэрсэт**

XXI СТАГОДДЗЕ

# БЕЛАРУСКІ СУПРАЦІЎ

**Здохла свіння. Каб не напала рэквізіцыя, мужык паклікаў суседа і ў поцемках, цішком, адцягнулі яны яе далей ад вёскі ды закапалі без слёз і фармальнасцяў.**

-- Свінні заўсёды дохлі, -- кажа. -- Купляем корм у п'яніцаў з фермы. Ад гэтага корма, бывае, і свінні дохнуць, і куры слепнуць. А то і нічога ім не робіцца. Заўсёды так было -- жыццё...

Ну дык вось... Закапалі мы тую свінню, але знайшлася адна актыўная дурніца ды патэлефанавала ў раён. Толькі ў раёне таксама нашы людзі, вясковыя. Не ведаю, што ўжо яны ёй адказалі, але не паехалі. А яна ўсё супакоіцца не можа -- тэлефануе ў вобласць. І вось гэтыя ўжо спецбрыгаду выслалі. Дзякуй мужыку ейнаму, што папярэдзіў. Дык мы работы пакідалі, хуценька дадому кінуліся -- чакаем. Але ж не ведаем, з якога боку яны будуць на нас нападаць, таму цэлую спецаперацыю арганізавалі. Дзяцей на веласіпедах паслалі ў розныя бакі. Мабільнікі ім далі, каб тэлефанавалі адразу, як толькі ўбачаць машыны. А самі -- хто з калом, хто з віламі -- выйшлі бараніць свіней. Усе мужыкі выйшлі! Наша вёска дружная, вы не думайце, хаця адна дурніца ўсё-ткі знайшлася.

І вось едуць. І міліцыя, і ветэрынары, і нейкія пры гальштуках. Мы сталі наўпрост упоперак дарогі, каб нават не даць уехаць у вёску. Старыя, маладыя, дзеці з веласіпедамі... Кажам: "Няма чаго вам тут рабіць, не хварэюць нашы свінні, не аддадзім".

Міліцыянеры -- адразу ўбок (нічога дрэннага не скажу пра міліцыю). А ветэрынары ды тыя, ў гальштуках, давай пагражаць. "Не маеце права. Пасадзім. Аштрафуем. Загад. Супраціў асобам пры выкананні..."

Але мы сцяной стаім. Злосць нейкая і страху ніякага. "Не аддадзім і ўсё, едзьце адсюль".

Яны спрабуюць ехаць -- мы насустрач з віламі. Спыняюцца, людзей душыць баяцца. Крык, мацюкі... Калі б Лукашэнка быў, то, можа б і парвалі яго людзі, не ведаю.

Бабы тым часам выганялі свіней ў калгасную кукурузу: пашчасціла, што поле прама за гародамі. Як справіліся -- то і яны прыбеглі да нас. А ўжо дзе бабы -- там гвалт такі, што не перадаць. Ветэрынар нейкай паперчынай трасе, а адна выхапіла ды на кавалкі. Яны яму і вочы гатовы былі выдраць, не тое што...

Карацей, гэтыя, са спецбрыгады, зразумелі, што тут ужо не свінні, а людзі забітыя могуць быць, і, відаць, спалохаліся.

"Добра, - кажуць. -- Хаця б пакажыце, дзе свінню закапалі".

Ну, ўжо гэтую свінню мы ім аддалі. З ёй яны і паехалі.

Сваіх парсюкоў мы потым яшчэ ці не два дні па кукурузе вылоўлівалі. Усё поле яны патравілі. Дзякуй старшыні, і слова не сказаў, бо ўсё разумее -- чалавек. А вось бабе той, што рэквізіцыю выклікала, цяпер ў вёсцы месца няма, людзі ў вочы плююць. Можа б, і хату спалілі, каб не мужык ейны.

Праўда, вось яшчэ што...

Усе навокал нашу гісторыю чулі, куды ні прыдзем -- распытвалі. Толькі тут недалёка яшчэ адна вёска ёсць, з той жа фермы корм куплялі, дык і там (ужо пасля нас) усё роўна адна лярва актыўная знайшлася. У людзей усіх свіней знішчылі, жывымі палілі, бабкі прытомнасць гублялі. Што ўжо ёй будзе -- не ведаю. Але, паглядзіце, нешта будзе. Людзі ёй не даруюць.

Ды і што яна нарабіла сваім доўгім языком? Навошта? Думала, калі закладзе, ейных свіней чапаць не будуць? Дык усіх знішчылі. І ейных знішчылі.

... Некалі бацька мне прытчу расказваў пра беларусаў: "Выклікаў Бог беларуса і кажа: "Прасі, што хочаш. Толькі тваіму суседу я дам у два разы больш". Беларус падумаў і папрасіў: "Выкалі мне вока..."

Ну, што ж ёсць за людзі?!

x x x

*Свінні ў людзей засталіся. Не ўсе, праўда. Што маглі змясціць у халадзільнікі ды маразільнікі -- тое забілі. Астатніх гадуюць. Таму я дурніцай не буду і дзе ўсё гэта адбывалася, не скажу. Хіба толькі пазней, пісьменнікам. Падаецца, што з такімі сюжэтамі новы Мележ можа нарадзіцца. А то і Быкаў...*

**Светлана Калинкина**
**"Народная Воля"**

**Заснавальнік і рэдактар:**
Гаравы Леанід Антонавіч

**Адрас рэдакцыі:** 211573, г. Гарадок, вул. Гагарына, д.30Б, кв.16. E-mail: 250318@list.ru
Тэл. 8-02139-4-42-52, маб. + 375(29)6723842 (V),
Газета выдаецца з сакавіка 1998 г.

**Падпісана да друку 30.10.2013 у 18.25**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца на абсталяванні аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.